*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 13(69) ◈ 31 сакавіка 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)



## ПОСТУП ТЫДНЯ

СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ СУСТРЭЎСЯ З ВІТАЎТАСАМ ЛАНДСБЕРГІСАМ У ВІЛЬНЮСЕ. Абмеркавана абслугоўванне літоўска-беларускай граніцы, эканамічныя і іншыя праблемы. Беларуская дэлегацыя прыняла таксама ўдзел у святкаванні Дня незалежнасці Беларусі, які суседняя Літва адзначала сёлета шырока і ўрачыста.

*ПРАДСТАЎНІКІ ВЯРХОЎНЫХ САВЕТАЎ ДЗЯРЖАЎ-УДЗЕЛЬНІЦ САДРУЖНАСЦІ АБМЕРКАВАЛІ Ў АЛМА-АЦЕ СТВАРЭННЕ МІЖПАРЛАМЕНЦКАЙ АСАМБЛЕІ ДЗЯРЖАЎ СНД ЯК НОВАГА КАНСУЛЬТАТЫЎНАГА ОРГАНА. У парадак дня кансультатыўнай нарады былі ўнесены таксама пытанні аб супрацоўніцтве пастаянных камісій і камітэтаў парламентаў, стварэнні арганізацыі міжпарламенцкай інфармацыйна-даведачнай службы, супрацоўніцтве ў галіне грашова-крэдытнай палітыкі.*

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРАЦЯГВАЎ АБМЕРКАВАННЕ ПРАЕКТАЎ НОВЫХ ЗАКОНАЎ. Адзін з іх, які выклікаў ажыўленую дыскусію дэпутатаў,— аб уласнасці на зямлю. На разгляд сесіі было прапанавана два законапраекты — прыхільнікаў дзяржаўнасці (саўмінаўскі) і апазіцыі (ён прапаноўвае перадаць усю зямлю дзяржаве, а затым даць магчымасць купіць яе, атрымаць у карыстанне ці ўзяць у арэнду). Прынята рашэнне апублікаваць абодва праекты, вярнуцца да іх абмеркавання ўжо восенню. *АБМЕРКАВАНЫ ТАКСАМА ПРАЕКТЫ ЗАКОНАЎ «АБ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ЖЫЛЛЁВАГА ФОНДУ» (У ДРУГІМ ЧЫТАННІ), «АБ СВАБОДЗЕ СУМЛЕННЯ І РЭЛІГІЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЯХ», «АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ НАВУКОВА-ТЭХНІЧНАЙ ПАЛІТЫЦЫ» І ІНШЫЯ.*

— НІ Ў АДНОЙ цывілізаванай краіне няма такога, каб маці, сын якой загінуў у арміі, хадзіла, плакала і патрабавала нейкай кампенсацыі,— так заявіла сакратар Камітэта салдацкіх маці Тацццяна Падпорынава Ў ЧАС ПІКЕТАВАННЯ НА ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ПЕРАД ДОМАМ УРАДА, ДЗЕ ПРАХОДЗІЦЬ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. Кожная маці прынесла фатаграфію свайго сына, які загінуў у арміі.



Візіт у Рэспубліку Беларусь намесніка федэральнага канцлера міністра замежных спраў ФРГ Ганса-Дзітрыха Геншэра.
НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам.
Фота Юрыя ПАЎЛАВА.



У рамках аперацыі «Дадзім надзею» ў Менск прыбыў самалёт ваенна-паветраных сіл ЗША. Ён прывёз медыцынскае абсталяванне і лекі, у пералік якіх уваходзяць болей за 80 назваў. Усе яны прызначаны для бальніц Гомельскай і Магілёўскай абласцей, якія найбольш пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.
На здымку: экіпаж самалёта, які прывёз груз.
Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА.

*На Беласточчыне стала добрай традыцыяй праводзіць штогод Дні Памежжа — свята нацыянальных меншасцей Рэспублікі Польшчы. Удзельнічаюць украінска-, літоўска- і беларускамоўныя мастацкія калектывы. Чарговая сустрэча адбылася ў канцы мінулага года. Адзін дзень быў прысвечаны творчасці тутэйшых беларусаў. Гасцей шчыра вітаў старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы Аляксандр Баршчэўскі.*

(ВІС)

*Меркаванні*

# АБАПІРАЦЦА НА НАБЫТКІ

## *Працягваем абмен думкамі аб стане беларускага правапісу*

Святая задача ТБМ — як мага шырэй разгарнуць абмен думкамі пра рэформу, далучыць да яго лепшыя сілы і давесці да ладу.

Я таксама мушу прапанаваць колькі сваіх думак.

1. Цалкам слушным будзе вяртанне ў афіцыйную граматыку дарэформеннага (да 1933 года) правапісу. Але падыходзіць трэба дыферэнцыравана. Напрыклад, вяртаючы мяккія знакі пасля зычных *(сьмех, зьгінуць, зьява)*, мне здаецца, трэба пакінуць без змены правапіс падвойных зычных *(Купалле, суддзя)*, бо тут мяккія знакі недарэчныя. Падвойны зычны — гэта адзін падоўжаны гук, а не два розныя, і таму зусім не трэба ўціскаць у .сярэдзіну мяккі знак, тым больш, што фізічна немагчыма вымавіць цвёрда першую літару. Даволі пачварна выглядае штучна абцяжаранае лішнімі літарамі слова *судзьдзя* ў параўнанні з *суддзя*.

2. Лічу неабходным увесці (вярнуць) у правапіс спалучэнне літар *кг* на месца выбухнога *г*. Чаму? У цяперашнім правапісе не разглядаюцца *г* выбухны і фрыкатыўны, хоць шмат у якіх запазычаных словах выбухное *г* ужываецца (павінна ўжывацца). У лацінцы ёсць дзве адпаведныя літары, у «грамадзянцы» ў савецкі час выбухное *г* пазначалася апострафам ці іншым шрыфтам, што нязручна і малазразумела. Між тым сотні гадоў для абазначэння гэтага гука ў беларускай (менавіта беларускай і ніякай іншай) мове ўжывалася спалучэнне літар *кг*. Увядзенне гэтага спалучэння мае не толькі лексічны, але і гістарычны, нават палітычны характар, бо адраджае традыцыі пісьма, звязвае сучасную мову з яе каранямі.

Традыцыі ў правапісе, як і ва ўсім астатнім,— гэта рыса паўнацэннай нацыі са сваёй гісторыяй, і беларуская мова як старапісьменная павінна абапірацца на набыткі стагоддзяў. Вядома, далёка не ўсё можна ўзяць са старабеларускай граматыкі. Але спалучэнне *кг* — якраз той выпадак, калі ўзяць будзе дарэчы.

Яшчэ адно актуальнае пытанне — гэта словы, якія ўжываюцца замест слова *таварыш*. Вельмі шкада, што ў нашай афіцыйнай мове яго проста замянілі на *спадара* і штучнае *спадарства* і амаль не згадваюць добрыя старыя (не састарэлыя!) словы. А скарбаў шмат. Вось толькі некаторыя словы.

ПАН, памяншальнае ПАНОЧАК — сталы мужчына. Мне здаецца, што *спадар* будзе выдатна ўжывацца ў афіцыйнай размове, дакументах і г.д. *(спадар Жук падаў скаргу)*, а ў неафіцыйных выпадках лепей ужываць *пан (пан доктар, пан гаспадар, пан у шэрым капелюшы)*.

ПАНОВЕ — зварот (расійскае *господа)*.

ПАНЯ, ПАНІЧКА — сталая жанчына.

ПАНІЧ, ПАНІЧОК — малады чалавек.

ПАННА, ПАННАЧКА— дзяўчына, маладая жанчына.

ПАНЕНКА, ПАНЕНАЧКА — дзяўчына.

Камусьці можа здацца, што гэтыя словы — паланізмы. Але, па-першае, яны ўжываюцца нашым народам не адну сотню гадоў, і зараз цяжка сказаць, хто ў каго запазычыў. А каб упэўніцца ў тым, што гэтыя словы шырока ўжываліся, і не толькі шляхтай, а ўсімі беларусамі, дастаткова зазірнуць у старыя слоўнікі (напрыклад, Насовіча). Па-другое, калі мы адмовімся ад усіх слоў, якія ёсць у іншых мовах, дык мы вымушаны будзем размаўляць на пальцах. Чэхі ды ўкраінцы чамусьці не маюць комплексу наконт польскасці ці няпольскасці слова *пан*. Між іншым, *спадарства*, якое так любяць нашы дыктары, якраз і ёсць калька з польскай мовы.

**Юры СКРЫГАН.**

*Чыталі?*

# «Пералом у псіхалогіі работнікаў адукацыі адбыўся»

**Так сказаў начальнік гарадскога Упраўлення народнай адукацыі г. Менска Г. Дз. Дылян, які даў інтэрв'ю супрацоўнікам газеты «Добры вечар» (12.03.92). Генадзь Дзям'янавіч схільны лічыць гэты пералом «даволі прыкметным». «Многія разумеюць,— тлумачыць ён,— што назад дарогі няма». На цяперашні час у Менску, паведаміў начальнік гарадскога УНА, «трыццаць школ афіцыйна вызначыліся як беларускія, на падыходзе яшчэ трыццаць». Пачала, нарэшце, працаваць і сістэма моўнай падрыхтоўкі ўсіх катэгорый працаўнікоў адукацыі. І што сімптаматычна, зазначае сп. Дылян, дык гэта тое, што «ўсё большая колькасць настаўнікаў, завучаў, дырэктараў, супрацоўнікаў райана пачынаюць гаварыць на роднай мове». Вельмі важна, што з цяжкасцю, але пераходзіць на беларускую мову справаводства ў школах і ва ўсіх органах адукацыі. Разам з тым, «у многіх школах назіраецца ціхае процідзеянне працэсу беларусізацыі, а, галоўнае, цяжка пераадолець псіхалогію бацькоў. Дзесяткі гадоў беларуская мова паслядоўна выкарчоўвалася з нашага жыцця, і вярнуць яе адным махам, відаць, не атрымаецца». Тым не менш, Г. Дз. Дылян настроены аптымістычна. Галоўнае, сказаў ён, «цяпер у пытаннях адраджэння роднай мовы ёсць стратэгія, ёсць пазіцыя, ёсць, нарэшце, закон. Цяпер неабходна паслядоўная карпатлівая праца».**

**Л. М.**

*Але!*

# Канферэнцыя — гэта не пасядзелкі

Хоць «Наша слова» і апублікавала ўжо справаздачу пра канферэнцыю гарадской суполкі ТБМ у Менску, але як удзельнік гэтай падзеі павінен таксама выказаць свае ўражанні. Таму што такога дрэннага ўражання, якое пакінула названая канферэнцыя, я не меў яшчэ ніколі.

Перш-наперш здзівіла пісьмовая абвестка. Чамусьці на гарадскую канферэнцыю запрашалі ад імя Рэспубліканскай Рады Таварыства. Павестка дня і мэта канферэнцыі не названа. Здзіўленне ўзмацнілася тым, што і потым у зале пасяджэнняў павестка дня не была названа. Прэзідыум фарміраваўся неяк жартам. Як аказалася, у зале не было ні старшыні гарадской рады, ні яго намесніка. Кіраўніком канферэнцыі аб'явіў сябе адзіны член сакратарыята прафесар Л. М. Лыч. Пра кворум, неабходны для адказных рашэнняў, не ўспомнілі. Ніякай справаздачы, аналізу працы ТБМ Менска, прапаноў, ацэнкі дзейнасці ні нават проста цікавага,карыснага даклада таксама не было. Адкрыццё пасля «абрання» прэзідыума пачалося прыкладна так: прафесар Л. М. Лыч сказаў: «Давайце выступаць». Пасля працяглага маўчання залы, мабыць, каб расшавяліць прысутных, за трыбуну выйшаў Ніл Гілевіч. Ну,— думалася,— зараз пачнецца вялікая справа. Але прамовы ў добрым сэнсе гэтага слова не было. Галоўны змест 6-хвіліннага выступлення: я спяшаюся і пакіну вас, а вы тут не шуміце, паводзьце сябе добра, поспех беларусізацыі залежыць ад школы. Не атрымалася і грунтоўных спрэчак.Не было абмену вопытам, абгрунтаваных сур'ёзных заўваг і пажаданняў.

Добра ўзважаным, цікавым ва ўсіх адносінах было, бадай, толькі выступленне Кузьміч Вольгі Аляксандраўны, старшыні камісіі Менгарсавета па адукацыі і выхаванні.

У выступленні старшыні нацыянальна-дэмакратычнай партыі Астапенкі А. У. было больш самалюбавання сваёй арыгінальнасцю, а не заклапочанасці станам спраў. Мабыць, таму ён адразу ж пакінуў залу.

Падыскутаваўшы аб усім і ні аб чым грунтоўна, прыступілі да выбараў новага кіраўніцтва гарадской арганізацыі ТБМ. Абмеркаваных кандыдатур ад раёнаў і вядучых арганізацый не аказалася. Хтосьці назваў пісьменніка Алега Лойку. Хтосьці другі захацеў хоць бы паглядзець на яго, а не тое, каб паслухаць ягоную будучую праграму дзеянняў. Але вядучы адказаў жартам: член-карэспандэнт АН Алег Лойка зараз піша вершы (адзначым, што ні адзін пісьменнік, акрамя Ніла Гілевіча, на канферэнцыю не прыйшоў). Стыхійнае вылучэнне кандыдатаў ішло марудна. Мабыць, таму вядучы звярнуўся да прысутных з пытаннем: хто сам жадае стаць членам гарадской рады ТБМ? У адказ — маўчанне. Потым паступіла прапанова ўвесці ў гэтую раду ўсіх старшынь раённых рад. Зацвердзілі. Але вакансіі яшчэ засталіся. Тады вядучы назваў кандыдатуру загадчыка неіснуючай кафедры гісторыі беларускай мовы і літаратуры БТІ. Кандыдатура прайшла, хоць самога кандыдата не было. Ніхто пры гэтым нават не звярнуў увагу на такую «дробязь»: з ліку прысутных на пачатак канферэнцыі ў зале засталося трохі больш за чвэрць.

Разыходзіліся дэлегаты ў кепскім настроі. Адусюль было чуваць: што ж будзе далей, калі такую тонкую, складаную і нялёгкую справу, як укараненне беларускай мовы ў рэспубліцы, паважаныя людзі ператвараюць у звышпавярхоўную фармальнасць.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук,**
**прафесар.**

# АДРАДЖЭННЕ НЕМАГЧЫМА БЕЗ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЫ

**Аўтары «Канцэпцыі гістарычнай адукацыі ў сярэдняй школе Беларусі» І. Багдановіч, М. Біч, Г. Космач, А. Люты, У. Плышэвіч пад навуковым кіраўніцтвам спадара Біча — доктара гістарычных навук далі глыбокі аналіз сучаснага стану гістарычнай адукацыі, вызначылі яе мэты і задачы («Настаўніцкая газета» ад 30 лістапада 1991 г.). Яны, на мой погляд, разумеюць, што тое, чаго дабіваліся ў 20—30-я гады «ворагі народа» нацдэмы, мае сёння права на жыццё: «Новыя падручнікі для сярэдніх школ Беларусі павінны быць напісаны з пазіцый менавіта нацыянальна-беларускіх, бо культурна-нацыянальнае адраджэнне беларускага этнасу немагчыма без стварэння нацыянальнай школы...» Але незразумела, чаму ў «Канцэпцыі...» няма месца для гістарычнай адукацыі ў нацыянальнай школе рускім і ўкраінцам, палякам і яўрэям, літоўцам і латышам, татарам і ўсім тым, хто не толькі не хоча згубіць свае карані, але і каго беларуская дзяржава як член ААН павінна бараніць ад дэнацыяналізацыі, максімальна набліжаючыся да таго, як гэта робяць, скажам, у Швецыі: «Тут вельмі клапоцяцца аб тым, каб кожнае дзіця вучылася роднай мове, каб у яго было пачуццё сваёй нацыі і сваёй сям'і. Калі ў школу трапіў хлопчык, які размаўляе на якой-небудзь зусім экзатычнай мове, яму будуць шукаць настаўніка і вучыць яго аднаго» («Настаўніцкая газета» ад 11 снежня 1991 г.). Хіба не беларусаў можа задаволіць такое выказванне аўтараў «Канцэпцыі...»: «У школьным курсе гісторыі Беларусі павінна знайсці належнае асвятленне і гісторыя іншых народаў, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі...»**

**Калі не даць кожнаму этнасу яго гісторыю, наўрад ці адродзімся і мы, беларусы, згвалтаваныя духоўна больш моцнымі суседзямі на Захадзе і Усходзе. Хоць трэба заўважыць, што двухбаковыя пагадненні, якія падпісваюцца цяпер кіруючымі асобамі Беларусі, абяцаюць бараніць нацыянальныя інтарэсы прадстаўнікоў іншых нацый у Рэспубліцы Беларусь.**

**Поўнасцю падзяляючы думку аўтараў, што «ўвядзенне самастойнага курса гісторыі БССР у 1991—1992 навучальным годзе паралельна з курсам гісторыі СССР справы да лепшага не змяніла: па-ранейшаму ён выкладаецца ў якасці фрагментарных дадаткаў да гісторыі рускай дзяржавы», зыходзячы з уласнага вопыту (вывучаць курс гісторыі Беларусі кампактна, каб хоць нейкі перыяд вучань пажыў у ёй), стаю за стварэнне такіх падручнікаў, дзе б вывучэнне пэўнага гістарычнага перыяду (скажам, старажытнай гісторыі) ажыццяўлялася сінхронна (але не паралельна) у рамках аднаго падручніка. У беларускай школе гэта спачатку старажытная гісторыя Беларусі, дзе павінны давацца і агульныя гістарычныя паняцці, затым гісторыя народаў Беларусі і, нарэшце, усеагульная гісторыя. Для рускай школы — старажытная гісторыя Расіі, старажытная гісторыя Беларусі (прычым гісторыя Беларусі, напісаная на дзяржаўнай мове — беларускай) і ўсеагульная гісторыя. Для польскай школы — старажытная гісторыя Польшчы, старажытная гісторыя Беларусі, усеагульная гісторыя. І гэтак па класах.**

**Такім чынам, у падручніку гісторыі кожнага класа будзе тры курсы: для беларускіх школ — гісторыя Беларусі, гісторыя народаў Беларусі, усеагульная гісторыя; для школ іншых нацыянальнасцей — гісторыя адпаведнага этнасу, гісторыя Беларусі і ўсеагульная гісторыя.**

**Адзнакі за веды павінны выстаўляцца за кожны курс асобна. Гэта дасць магчымасць сканцэнтраваць увагу вучняў, дабівацца сістэмнасці ў навучанні, прымусіць настаўніка больш адказна адносіцца да кожнага курса.**

**Для пачатковай школы павінен быць адзін падручнік гісторыі: для беларускіх школ — «Мая Радзіма — Беларусь», для школ іншых нацыянальнасцей Беларусі — «Мая нацыя, мая Радзіма — Беларусь». Выкладае гэты прадмет настаўнік пачатковых класаў.**

**Такімі думкамі я падзяліўся 19 снежня мінулага года на нарадзе настаўнікаў гісторыі Кастрычніцкага раёна г. Менска. На жаль, больш выступаючых не было, акрамя метадыста ГІУН па гісторыі, якая непрыхільна паставілася да маёй прапановы. Я катэгарычна супраць дадзенай ёю папярэдняй разбіўкі гадзін, якая, на мой погляд, павінна зыходзіць не з матэматычных разлікаў, а з пазіцый агульначалавечых каштоўнасцей, здаровага сэнсу: усеагульная гісторыя да нацыянальнай, як 6:1 ці 4:1 (5 кл.— 58 усеагульная, 10 — гісторыя Беларусі (дабаўляю: і яе народаў!), 6 кл.— 68 — усеагульная гісторыя, 17 — гісторыя Беларусі).**

**Але, з мэтай павагі да іншых нацыянальных супольнасцей у Беларусі, гадзіны, адведзеныя на выкладанне гісторыі Беларусі і гісторыі іншых народаў Рэспублікі Беларусь, павінны быць у падручніку адэкватнымі.**

**Не пакідае раўнадушным і такое палажэнне «Канцэпцыі...», што «праверка ўзроўню кваліфікацыі настаўнікаў ажыццяўляецца шляхам перыядычных атэстацый раённымі камісіямі, якія камплектуюцца з ліку найбольш вопытных і кампетэнтных выкладчыкаў гісторыі адпаведнага раёна». Гэта не што іншае, як спроба захаваць амаральнасць, пакорлівасць феадальна-камуністычнаму прынцыпу «Спявай, крошка, з намі». Атэстацыю, якая прайшла на пачатку гэтага навучальнага года, я лічу вялікай бюракратычнай гульнёй. Бо яна не столькі ўлічвала веды вучняў і кваліфікацыю настаўнікаў, колькі лаяльнасць да адміністрацыі школы і райана.Ды як іх улічыць, калі Закон аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь быў прыняты без Закона аб ведах. Не будзе такога закона, кантролю за яго выкананнем,— не бачыць нам ні цывілізаванай эканомікі, ні адраджэння гістарычнай памяці... Праводзіць атэстацыю патрэбна ў інстытутах удасканалення настаўнікаў і, пажадана, на камп'ютэрах, якія былі б запраграміраваны на шматлікія варыянты атэстацыі па гісторыі. Трэба, каб крытэрыем атэстацыі сталі веды і навыкі вучняў і настаўнікаў, а не ўзаемаадносіны настаўніка з адміністрацыяй і чыноўнікамі сістэмы народнай адукацыі.**

**Мікалай СЯНЬКЕВІЧ,**
**настаўнік гісторыі**
**сярэдняй школы**
**№ 194 г. Менска.**

*Вось і дажылі — пры Міністэрстве замежных спраў рэспублікі акрэдытавана беларуская рэдакцыя радыё «Свабода». Яшчэ нядаўна пра гэта нават і марыць не даводзілася. Але і раней з ёю супрацоўнічалі менскія журналісты. Што падштурхнула да творчай сувязі з «варожай» радыёстанцыяй? Як яна паўплывала на перамену іх поглядаў?*

# «СВАБОДА» ДАЛА МНЕ СВАБОДУ»,— лічыць Галіна Айзенштат



НА ЗДЫМКУ: Галіна Айзенштат (злева) і Ларыса Верас, намесніца дырэктара беларускай рэдакцыі радыё «Свабода».
Фота Я. МЯЦЕЛІЦЫ.

**— Галіна, з чаго пачыналася твае супрацоўніцтва з «Свабодай»?**

— Каб ведалі партакраты, што яны галоўныя «віноўнікі» майго супрацоўніцтва, дык, відаць, вельмі б здзівіліся, бо менавіта «Политический собеседник» падштурхнуў мяне да гэтага супрацоўніцтва. Гэта смешна, але я не раз дзякавала яму. А было гэта так. Яшчэ ў 1989 годзе да мяне раптам пазванілі супрацоўнікі радыё «Свабода» Ларыса Верас і Васіль Крупскі — яны вырашылі ўзяць у мяне інтэрв'ю, нават аб'явілі па «Свабодзе», што хутка перададуць інтэрв'ю з Айзенштат.

Аказваецца, яны ўсе беларускія газеты атрымліваюць, чыталі мае артыкулы ў «Знамени юности». Іх зацікавіла, што рускамоўная газета ўвяла спецыяльны раздзел на беларускай мове. І так мы тады «сустрэліся» — проста ў час майго дзяжурства ў газеце. Яны ўдваіх мяне інтэрв'юіравалі. Быў такі момант. Разам са мной у пакоі сядзела яшчэ адна супрацоўніца, якая займалася ідэалогіяй. Яна падняла вэрхал: не хапала, каб у нас яшчэ са «Свабоды», варожай радыёстанцыі, бралі інтэрв'ю! Але размова ўсё ж адбылася. Іх цікавілі мае погляды на тагачасныя падзеі, абстаноўку ў рэспубліцы, што робіцца ў галіне нацыянальнай культуры. Пытанняў было многа. І ўсё, што я гаварыла, яны пасля перадалі па радыё, нічога не сказіўшы. Я тады напісала пра гэта ў сваю газету: маўляў, ніякія там, у «Свабодзе», не ворагі, пара і нам неяк інакш адносіцца да іх. Артыкул выклікаў бурны рэзананс. Адрэагаваў і «Политический собеседник».

**— А ў рэдакцыі як праходзіў гэты матэрыял?**

— Як ні дзіўна, але прайшоў ён лёгка. Відаць, тлумачыцца гэта яго сенсацыйнасцю. Так вось і пачалося наша супрацоўніцтва. А ў «Политическом собеседнике» пра мяне напісалі: гэта ж тая самая Айзенштат, якая давала інтэрв'ю радыёстанцыі «Свабода»! Быццам я зрабіла злачынства. А потым яшчэ ў перадавіцы чарговага нумара «прайшліся». І тады я вырашыла ім адказаць па радыё. У «Свабодзе» мяне падтрымалі: «О, давай, давай!..» З таго часу я і пачала з імі супрацоўнічаць.

**— Калі мы працавалі разам у «Знаменцы», я ведаў цябе як перакананую кампартыйку. Ці складаным быў твой пераход да новых перакананняў?**

— Сапраўды, у той час для супрацоўнікаў «Свабоды» я была аўтарам незвычайным, у многім прытрымлівалася супрацьлеглых ім поглядаў, бо была членам кампартыі. Але мне пра гэта ніхто з іх нічога не гаварыў. Для рэдакцыі больш важным было маё майстэрства журналіста.

Праўда, калі ў 1991 годзе я выйшла з партыі, яны амаль аднагалосна сказалі: «Віншуем!» Цяпер, калі я азіраюся назад, на сябе, якой я была, то бачу выразна, што камуніст — гэта самы «жалезабетонны» чалавек. І такой я была — вельмі зашоранай, з такім ілбом, як я цяпер смяюся, які цяжка нават прабіць. Але адбыліся ўнутраныя змены. Яны адбываюцца ўвесь час і цяпер. Я яшчэ паўгода назад была не такой, як сёння. Назваць нейкі канкрэтны дзень, калі я памяняла погляды, нельга. Але, думаю, супрацоўніцтва са «Свабодай» паспрыяла гэтаму. Чаму? Я пачала хадзіць на мітынгі, арганізаваныя БНФ, стачкамам, іншыя такія мерапрыемствы. Я там столькі наслухалася, асабліва летась у красавіку, што ўжо тады на плошчы гатова была кінуць свой партбілет. А тым часам ішло цкаванне мяне ў розных партыйных выданнях. Гэта выклікала не столькі абурэнне, колькі жаданне яшчэ больш спрыяць таму, каб гэты рэжым, які дыктуе мне, што пісаць, што думаць, куды ехаць, з кім сябраваць, хутчэй развалiўся.

**— Тваю працу ў «Свабодзе», здараецца, і цяпер не абыходзяць увагай пракамуністычныя выданні. Ці многа часу аднімае ў цябе дыскусія з імі?**

— Я ўжо даўно не звяртаю ўвагі на гэта, нават не заўсёды ведаю аб публікацыях, пакуль нехта не падкажа.

**— Раней перадачы беларускай рэдакцыі «Свабода» слухалі праз глушылкі, цяпер іх можна слухаць свабодна. Пэўна, і дзяліцца ўражаннямі слухачам стала лягчэй. Ці павялічыліся сувязі з аўдыторыяй радыёстанцыі? І як гэтыя сувязі ўплываюць на змест перадач?**

— Так, яны значна пашырыліся, пачалі прыходзіць пісьмы. Рэдакцыя ўвяла нават рубрыку «Дыялёг», якую вядзе Ася Ігнацёнак, таксама эмігрантка з Беларусі. Выходзіць «Дыялёг» прыкладна раз у два тыдні, па суботах. У перадачы даюцца адказы на пісьмы. Хоць пытанні часам бываюць не вельмі цікавыя, па дробязях.

Супрацоўнікі рэдакцыі, асабліва Ларыса Верас, часта бяруць інтэрв'ю ў людзей, якія тут жывуць,— у вучоных, палітыкаў, дзеячаў культуры. На жаль, беларускай рэдакцыі адведзены абмежаваны час — усяго гадзіна. Гэта не дае магчымасці ажыццявіць многія планы ў поўнай ступені.

Беларусь цяпер ужо самастойная дзяржава. Можа, у будучым перадачам на беларускай мове ўсё-такі адвядуць больш часу.

**— Якіх аўтараў можна было б назваць, што актыўна дапамагаюць у рабоце радыёстанцыі?**

— Ёсць у нас Каміла Малевіч, Ясь Валошка, Вітаўт Мартыненка, Сяргей Навумчык, Аляксандр Лукашук, Алена Тарасава. Ёсць некаторыя аўтары, што выступаюць час ад часу. Некаторым аўтарам заказваюць пэўную серыю перадач. Напрыклад, Юрась Залоска зрабіў перадачы пра беларускую мову. У кожнага свае тэмы. Я звычайна выступаю ў жанры палітычнага каментару.

**— Гэта зноў «Политический собеседник» падштурхнуў?**

— Не зусім. Я стала парламенцкім карэспандэнтам. Раблю цяпер каментарыі не толькі для «Свабоды», але і для «Знамени юности». Хочацца адзначыць, што заходняя журналістыка вельмі адрозніваецца ад савецкай, выхаванай партыйнай агітацыяй. У нас шмат гаварыць, а калі добра адціснуць, дык нічога не застаецца. Цяпер я навучылася пісаць коратка, але больш ёмка. І за гэта дзякуй «Свабодзе».

**Распытваў А. СІЛЯНКОЎ.**

*Перадрук*

# Прад'явіце пісьменнасць, або Што-кольвек аб працэсе беларусізацыі ў рэспубліцы

***У шматтыражнай газеце Беларускага тэхналагічнага інстытута «Тэхнолаг» традыцыйнымі сталі выпускі тэматычнай старонкі «Купалінка». Выкладчыкі і студэнты вядуць гаворку пра праблемы беларусізацыі, пра тое, якія няпросты і пакручасты шлях у беларускага Адраджэння. Прапануем увазе чытачоў адну з публікацый «Тэхнолага».***

Відаць, і мінулы, і сёлетні, і яшчэ некалькі заўтрашніх гадоў некалі ў будучым назавуць не проста пераходным перыядам, а часам бурнай беларусізацыі рэспублікі. Дзе-нідзе, праўда, і сёння ўжо можна сутыкнуцца з гэтым тэрмінам, аднак ужываюць яго, як правіла, не для сапраўднага вызначэння самога працэсу, а перш за ўсё — як модны выраз, накшталт «свежага ветру перамен». У тым, што гэта так, пераканацца няцяжка.

Зайдзіце ў любую ўстанову, і там, дзе некалі побач з шыльдачкамі ўладальнікаў пакояў, друкарскім спосабам вырабленымі, красаваліся ўдакладненні аб днях і гадзінах прыёму, сёння, хай сабе і ад рукі напісаныя тушшу ці фламастэрамі, таксама паперкі прымацаваны аб тым жа: «па асабістым пытанням». Хоць і непісьменна, затое ў духу часу, «па-беларуску». Прачытаеш і падумаеш: ах, якія малайцы, ужо адрапартавалі! Прачытаеш, і наведаць такі кабінет расхочацца, нават калі і ёсць пільная патрэба.

Больш уважліва прачытайце афішы ля нашых кінатэатраў, і там вы таксама знойдзеце нямала прыкладаў бяздумнага падыходу да працэсу беларусізацыі. Здавалася б, ну што там такога — перакласці назву новага кінафільма, тым больш, што, як правіла, яна не бывае груваcткай і складаецца ўсяго з некалькіх слоў. Аж не, і тут нагу зламаць можна. «Сабака, перамогшая вайну». Не скажу нічога пра змест фільма, не бачыў. Ды і глядзець не захацелася, прачытаўшы гэту афішу. Па-першае, *сабака* ў беларускай мове — гэта ён, мужчынскага роду. А па-другое, беларускай мове не ўласцівы формы «перамогшы» (які перамог), «усклядняючых» (што ўскладняюцца) і г. д.

Вельмі бракуюць гэтым рускамоўныя выданні рэспублікі, дзе, як правіла, знойдзецца не больш аднаго-двух супрацоўнікаў, якія яшчэ не ўсё забыліся з вясковай дзесяцігодкі. Але тым больш крыўдна было прачытаць у «Піянеры Беларусі» аб тым, што гусь разбівае скорасць... Прычым слова «гусь» там было ўжыта ў мужчынскім родзе, у той час як у беларускай мове існуе падзел на «гусь» (гуска — яна) і «гусак».

У мінулым годзе газета «Тэхнолаг» у парадку эксперыменту з нумара ў нумар друкавала слоўнік эканамічных тэрмінаў, падрыхтаваны супрацоўнікамі кафедры эканомікі і арганізацыі вытворчасці. Мяркуючы па водгуках, справа карысная і вартая працягу. Выказваліся пажаданні аб складанні тэрміналагічных слоўнікаў па ўсіх прадметах і выданні іх асобнымі брашурамі. Дарэчы, патрэбу ў іх адчуваем не толькі мы, у іншых ВНУ таксама пайшлі такім шляхам. Але ў аснове такой працы павінна быць перш за ўсё пісьменнасць. Калі ж кіравацца толькі жаданнем «абскакаць», апярэдзіць некага, выразна бачна на прыкладзе Беларускага інстытута народнай гаспадаркі, што з гэтага можа атрымацца. Тут нядаўна выйшаў з друку «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік гандлёва-эканамічных тэрмінаў, якія ўжываюцца пры вывучэнні курса «Эканомікі гандлю». Калі натрапіце на яго, не спяшайцеся пляскаць у ладкі, лепш задумайцеся, чаму «дебиторская задолженность — временно отвлечённые средства предприятия и подлежащие возврату от других юридических и физических лиц» перакладзена як «дэбіторская запазычанасць — часовае адхіленне грашовых сродкаў прадпрыемства і з наступным звароты ад іншых юрыдычных і фізічных асоб»; «безвозмездно» тут перакладзена як «безчасова», «укрупнённый» — «буйны», «срочная» — «хуткая», «полноценный» — «паўнацыйны», «произведённый» — «выпрацаны», «деление» — «падзел», «оборот» — «паварот», «торговля» — «таргоўля» (хоць у назве слоўніка двойчы выкарыстана слова «гандаль»), «личный» — «асобны», «выручка» — «утаргоўванне», «предоставление кредитов» — «раздача крэдытаў»?..

(Заканчэнне на с. 4).

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—12).*

...Почему латыши, эстонцы, грузины — менее колонизованы?.. Во-первых, алфавит. Во-вторых,— православие (вместо униатства) — главный носитель русификации... И — вырубили интеллигентов...

Нет носителей культуры... Только сейчас начинается подъём... Город ещё не выдвинул крупных национальных деятелей, интеллигенцию... Следующее поколение — даст ...Р.— самое главное для меня свидетельство этого, хоть родом он и не из города... Очень высокая у него культура — и стиха, и духа...

*Алег БЕМБЕЛЬ*

## З «падпольнай» кнігі

Человек должен, владея материалом мировой культуры, осмыслить историю и современность и написать всё это на белорусском языке...

...Огромные империи — они всегда вели к удушению человека. К духовной пустоте, озверению... И неминуемо разваливались... А на осколках начиналось возрождение...

Средоточие культуры всегда человек, а не общество. В малом обществе меньшая вероятность большого гнёта. Культуры, как правило, расцветали в небольших очагах... Афины, Венеция...

(—Але цяпер працэс стварэння адзінай сусветнай дзяржавы развіваецца няўхільна. Гэта дыктуецца і экалогіяй, і НТР, і космасам...)

— Этого никогда не будет!.. Но если бы это и случилось— это была бы катастрофа невероятная... Это была бы казарма хуже, чем сейчас в Китае... Гибель всякой культуры — а не только белорусской, русской или китайской...

**(Каля 40 гадоў, беларус, філосаф)**

...Уменне пасмяяцца і нават паздзекавацца з самога сябе — сведчанне духоўнага здароўя любога народа. Экстравагантныя, экстрэмальныя фармуліроўкі — вельмі карысныя прыступкі для пошукаў аптымальных дзеянняў. У гэтым сэнсе — няхай жывуць экстрэмісты!..

Тыпалогія нашай інтэлігенцыі, якую дае гісторык з Гродзеншчыны, б'е такі не ў брыво, а ў вока!.. Праўда, пажадана, каб вока ўсё ж такі засталося...— бо вызначэнні першых чатырох тыпаў могуць выбіць чалавеку не толькі вока, але і тое, што за ім. Пяты ж тып вызначае нейкіх анёлаў, якіх цяжка знайсці не толькі ў нас, але і ва ўсім свеце...

«Мову, кроў культуры» сваёй, народ павінен ахоўваць заўсёды, якой бы жорсткай ні была да яго маці (ці мачыха) — гісторыя. І характар гэтай маці-мачыхі трэба добра ведаць тым, хто нясе прафесійную адказнасць за лёс нацыянальнай духоўнай спадчыны.

*(Працяг будзе).*

# «Табе, маё слова, апошнія сілы аддам...»

***(Агляд паэтычнай пошты)***

У «Нашага слова» багатая чытацкая пошта. Хапае і літаратурных твораў, у прыватнасці, паэтычных.

Вядома, з-за спецыфікі газеты большасць дасланых вершаў прысвечана праблемам адраджэння беларускай мовы. Сярод іх ёсць больш і менш удалыя, але радуе, што ўсе яны напісаны шчыра, людзьмі нераўнадушнымі і нацыянальна свядомымі. Нярэдка ў лістах аўтары расказваюць, як вярталіся да беларускай мовы, як адчулі сябе беларусамі. Напрыклад, Мікола Хамчук успамінае сустрэчу з незнаёмай жанчынай, якая запыталася ў яго патрэбны ёй адрас на чыстай беларускай мове, а ён не змог адказаць. Гэта здарэнне падштурхнула нашага чытача да актыўнага вывучэння беларускай мовы. Спадар Хамчук пачаў думаць па-беларуску, уступіў у адну з суполак ТБМ імя Ф. Скарыны. Гісторыя тыповая, але шматзначная.

**Не сваёй карыстаемся мовай, замежнай.**
**Але роднае слова нам трэба вярнуць.**
**Свабоднай убачым тады, незалежнай**
**І моцнай дзяржавай цябе, Беларусь!**

Гэта радкі з верша Міколы Хамчука. Думка, выказаная ў іх, ёсць і ў творах У. Рунцэвіча з Мар'інай Горкі, В. Дзенісенкі з Краснаполля, Г. Каўша з вёскі Першамайская Гродзенскай вобласці, І. Патаповіча з Менска. Хоць іх творы і недасканалыя, маюць парушэнні законаў вершаскладання, але імкненне паэтаў-аматараў працягваць змаганне за родную мову ўласнымі вершамі заслугоўвае павагу і разуменне.

В. Забайловіч з Дуброўны ў вершы «Лёс роднай мовы» піша:

**Ў свой час на мове беларускай**
**Князі Літвы і польскі двор**
**Вялі размову без прымусаў,**
**Нібы на роднай на сваёй.**

На жаль, у прыведзеных радках ёсць хібы (недакладная рыфма «двор—сваёй», скарачэнне «ў» у пачатку сказа). Аўтары, якія пішуць пра адраджэнне мовы, павінны ўважліва сачыць за чысцінёй уласнай мовы, старацца не парушаць літаратурных законаў.

Шмат у рэдакцыйным стале вершаў, прысвечаных 100-годдзю Максіма Багдановіча.

**Максім Багдановіч —**
**Ты — казка і сонца,**
**Паэзіяй грэеш**
**І словам бясконца.**

Так піша ў сваім вершы «Ты — казка і сонца» Генадзь Гапановіч з Баранавіч. Праўда, яго твор асаблівай арыгінальнасцю не вылучаецца сярод іншых, акрамя ўсяго, па ім увогуле цяжка меркаваць пра творчыя магчымасці аўтара. Цікавыя вершы пра М. Багдановіча даслаў спадар Я. Пачабыт, настаўнік Засульскай СШ Стаўбцоўскага раёна. Відавочна, што аўтар дасканала ведае біяграфію славутага паэта і таму мае багаты выбар тэм. Адзін з вершаў — санет — ён прысвяціў маці Багдановіча Марыі Мякоце, ад якой дасталіся Максіму «фантазія і пяшчота». У вершы «Два Максімы» аўтар робіць спробу вызначыць змест магчымай гутаркі Максіма Багдановіча з Максімам Горкім пра Беларусь.

Аднак Я. Пачабыту варта пазбягаць такіх выразаў, як «паклянуся кулаком у грудзі», і старацца выказваць свае думкі больш ясна і паслядоўна.

Дзіўна сустракаць у пошце «Нашага слова» ананімныя лісты, асабліва з вершамі. Так, напрыклад, Г.Ю.А. матывуе сваю засакрэчанасць тым, што ў адной паважанай газеце яго абразілі як паэта.

Заўсёды прыемна знаёміцца з творчасцю маладых шматабяцаючых аўтараў. Хочацца адзначыць вершы васемнаццацігадовага Анатоля Лазара з вёскі Станькава Дзяржынскага раёна:

**Я гляджу на усход, вочы выеў мне дым,**
**Пад нагамі граніт, пад гранітам — зямля.**
**Шэрых помнікаў пляц, я на пляцы адзін.**
**Дзе мая Беларусь? Дзе Радзіма мая?**

Так канчаецца адзін з вершаў Анатоля, які сваімі творамі пашырае межы традыцыйнага «плачу па Беларусі». Сталыя, «моцныя» радкі гавораць пра нараджэнне сапраўднага паэта. Не магу не працытаваць яшчэ адзін з вершаў Анатоля:

**У пошуках лепшае долі,**
**Зямлю пакідаючы й хаты,**
**Дзе родная мова ў няволі,**
**І шчасце схавана за краты,**
**Дзе сумныя зоркі на брамах,**
**Жаўнеры і цёмныя ночы,**
**Дзе Бога няма ўжо у храмах,**
**Дзе слепнуць ад сораму вочы,**
**Дзе брудным дажджом неба мокне,**
**І мёртвыя родзяцца дзеці,**
**Накрыж забіваючы вокны,**
**Ідуць беларусы па свеце.**

Пры жаданні да некаторых радкоў можна «прычапіцца», але верыцца, што сам Анатоль бачыць моцныя і слабыя бакі сваіх твораў. Цікавыя і астатнія яго вершы: «Як я паміраў...», «Апраніся ў чорнае, брат...», «Дзень скончаўся ў імгле...»

Цікава было пазнаёміцца з творчасцю менскага паэта Франца Мяновіча.

**...Але і ў сябе на Радзіме пачуваюся эмігрантам,**
**Бо на маёй Беларусі чамусь Беларусі няма.**
**І над маёй Беларуссю лётаюць здані Купалы,**
**Скарыны й Сымона Буднага на белых магутных крылах.**
**Зямля пад іх белымі крыламі не хоча прыняць іх у вобдымы,**
**Зямля пад белымі крыламі не хоча прыняць мяне.**
**(«Мяне не прытуліць Эўропа...»)**

Паэзія спадара Мяновіча нетрадыцыйная, ёй уласцівы інтэлектуальныя пошукі формы і зместу. Нават мова ў Франца Мяновіча нязвыклая: ён стараецца прытрымлівацца дарэформеннага правапісу, ужывае забытыя формы слоў:

**...І калі бог стварыў час,**
**Найперш ён стварыў кола.**
**І калі зьнікне час,**
**дык таксама найперш**
**мусіць зьнікнуць кола.**

Гэтыя радкі гавораць, што Мяновіч мае багатае, часам парадаксальнае ўяўленне, арыгінальнае вобразнае мысленне. Праўда, халоднае «рацыё» часам шкодзіць паэтычнасці, зводзіць верш да нататкі, філасофскай максімы (напрыклад, верш «Моўчадзь — зусім не золата...»).

Пятро Жаўняровіч дасланыя ў рэдакцыю творы назваў «Тры вершы пра мову, напісаныя не сёння». З яго ліста і сапраўды вынікае, што ён «не сёння» пачаў клапаціцца пра адраджэнне мовы і даўно ведае моўныя праблемы і шукае на іх адказу:

**Матуліна слова пяшчотна тулю да грудзей,**
**Нібы толькі я, я адзін адагрэць яго мушу.**
**Паўсюль абыякава ходзяць мільёны людзей,**
**Не чуюць твой стогн мітуснёю забітыя вушы.**

Так піша ў адным з сваіх вершаў спадар Жаўняровіч. Гэтыя радкі зроблены няблага, ёсць цікавыя вобразы, думкі. На жаль, не заўсёды ўдаецца аўтару правільна выказаць іх. Напрыклад, верш «Матуліна слова» канчаецца так:

**Табе, маё слова, апошнія сілы аддам**
**І выпушчу ў свет. Ты ж не стой адзінока на ганку.**
**Ідзі гаспадыняй па ціхіх дзіцячых садках**
**І для немаўляці лагодна спявай калыханку.**

Здаецца, тут ёсць і вобразнасць і пачуццё, але хапае і хібаў: супастаўленне «слова — гаспадыня» мае недапасаванне ў родзе, эпітэт «ціхія» ў дачыненні да дзіцячых садкоў выклікае сумныя асацыяцыі.

Вылучаецца сярод паэтаў і Іосіф Масян з Ліды. Ён даслаў вершы, якія напісаў, натхніўшыся паэзіяй Максіма Багдановіча. І не дзіўна, што ён карыстаецца класічнымі формамі паэзіі — санетам, актавай, трыялетам, тэрцынай. Ёсць у Іосіфа Масяна сваё бачанне свету, ён любіць прыроду, шукае яснасць і дабрыню:

**Заззяе ўранні золатам адчаю**
**Пагожых дзён нядоўгая пара.**
**Калі ў прасцяг паволі усплывае**
**Ніццё павучын... І з-пад пяра**
**Штось просіцца, і ў вобразах мільгае.**
**Але ніяк не выведзе рука**
**Радок прывабны... Толькі верасы**
**У кроплях беззаганнае красы.**

На жаль, і гэта бачна па чацвёртым радку працытаванага твора, паэт часта парушае вершаваны памер. Ёсць і недакладныя рыфмы («лічу—зямлю»), русізмы («стоіш» у значэнні «каштуеш, варты»). Сустракаецца і няправільнае ўжыванне «у» і «ў». А ўвогуле вершы Масяна пакідаюць светлае і прыемнае ўражанне.

Шмат дасылаецца вершаў сацыяльнага зместу. Людзі паэтычным радком выказваюць свой боль, абурэнне негатыўнымі з'явамі жыцця, свае меркаванні аб палітычнай сітуацыі ў краіне. Тут можна назваць спадароў Ціхана Піскунова з Гомеля (верш «Не магу»), Міколу Грышана (верш «Насцярожанасць»), Будай з Маладзечна (верш «Жыве Беларушчына», прысвечаны С. Шушкевічу), Рыгора Камоскі (верш «Палеглым бязвінна»), Алеся Дземідовіча (вершы «Якой цаной?», «Трывога»). Паэтычныя вартасці гэтых вершаў не вельмі высокія, але актыўная грамадзянская пазіцыя іх аўтараў заслугоўвае павагі.

Ёсць у пошце «Нашага слова» і проста лірычныя вершы: пра каханне (Мікола Папоў з Менска, вершы «Я шукаў яе, гукаў...», «Дзявочыя пакуты»), пейзажныя (Лявон Дубоўскі з Мар'інай Горкі, верш «Успамін пра Слабаду»), пра дзяцей (Алесь Малчанаў з Ліды, верш «Малютцы»). Праўда, і гэтыя творы недасканалыя, але радуе, што ў іх ёсць свой погляд на свет.

Спадар Мікалай Курак даслаў верш «Чалавек з Бастыня» пра свайго земляка, які сорак гадоў хаваўся ў лесе ад людзей. Факт сам па сабе цікавы, але хочацца, каб у вершы была і паэзія.

У «Наша слова» даслана шмат варыянтаў новага гімна Беларусі. Адчуваецца, што ўсе пісалі шчыра і старанна, але, на жаль, аднастайна. З верша ў верш пераходзяць радкі пра тое, што беларусы — працавіты народ, пра беды, якія выпалі на нашу долю, і заклікі да шчаслівага і незалежнага жыцця. Успамінаюцца і дзяржаўныя сімвалы:

**Здзек і пагарда больш нас не схіляць,**
**Мужна мы рушым зноў да жыцця,**
**Сімвал адвечны — мкне ўдаль Пагоня,**
**Бела-чарвоны свеціцца сцяг.**

Так піша спадар Сцяпан Станюк з вёскі Данейкі Баранавіцкага раёна (верш «Жыць Беларусі»). На жаль, аўтар забыўся зарыфмаваць першы і другі радок, ужыў русізм «удаль» замест беларускага «удалеч», і не падумаў, што бела-чырвоны — гэта сцяг Польшчы, а не Беларусі, у якой сцяг бел-чырвона-белы.

Браніслаў Пяткевіч з Бабыніч Полацкага раёна, былы вязень сталінскага лагера, даслаў свой варыянт гімна: «Жыві, Беларусь». Пад гэтакай жа назвай даслаў свой верш спадар М. Віга. На жаль, іх творы мастацкімі не назавеш.

Спадар С. Міраеўскі з Антопаля Гомельскай вобласці напісаў:

**Беларусь, ты — спадчына,**
**Ты — адна з патрэб,**
**Як і сэрца матчына,**
**Мова, праўда, хлеб.**

Тут, як гаворыцца, «боб з гарохам» — цэлы шэраг неканкрэтных і несупастаўляльных параўнанняў.

У вершы спадара Ю. Сыско з Менска вельмі часта паўтараецца слова «слава», хоць ёсць беларускі адпаведнік — «хай жыве», «жыве».

Усім, хто хоча ўдзельнічаць у конкурсе па стварэнні гімна Беларусі, нагадваю, што сярод «кандыдатаў» на гімн Беларусі — верш Максіма Багдановіча «Пагоня», таму многім паэтам не шкодзіла б параўноўваць свае творы з геніяльнымі радкамі Максіма, перш чым прапаноўваць на конкурс.

На заключэнне ад імя «Нашага слова» шчыра дзякую ўсім аўтарам за ўвагу і жаданне супрацоўнічаць. Зычу творчых поспехаў і росквіту Вашых талентаў.

Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.

*Леанід ЛЕВАНОВІЧ*

# У ЧЭРВЕНІ 1953-ГА...

## *Старонкі з новага рамана*

***У рамане «Дзікая ружа» апісваюцца падзеі, якія адбываліся на Беларусі ў 1953 годзе пасля смерці Сталіна. У чэрвені таго года адбыўся пленум ЦК КПБ — першы і апошні, на якім і дакладчык, і амаль усе іншыя прамоўцы гаварылі на беларускай мове. Да нядаўняга часу матэрыялы пленума былі строга засакрэчаны.***



КАЛІ ХАТЫНЦКІЯ школьнікі рыхтаваліся да выпускнога вечара, першы сакратар Лабанаўскага райкама партыі Антон Пракапенка вывучаў новую пастанову Прэзідыума ЦК КПСС. Называлася яна незвычайна — «Пытанні Беларускай ССР». І змест яе таксама быў незвычайны. Партыйнае кіраўніцтва і ўрад рэспублікі крытыкаваліся за памылкі ў нацыянальнай палітыцы, за падбор кадраў, за недахопы ў сельскай гаспадарцы.

За недахопы ў сельскай гаспадарцы крытыкавалі заўсёды. Гэта было звыкла, гэта лічылася нармальнай з'явай. Вайна разбурыла ўсё, спалены вёскі, загінулі мільёны людзей. Але ж мы аднаўляем разбураныя вёскі, зямлянкі ўжо рэдкасць. І ўсё ж памылак хапае. Але крытыка за недастатковае вылучэнне мясцовых кадраў...

Пракапенка чытаў, перачытваў і не верыў сваім вачам. Успомніўся Змітровіч, даваенны сакратар райкама партыі. Ён праводзіў пленумы на беларускай мове. Антон Пракапенка вярнуўся ў раён пасля курсаў партактыву, прызначылі яго намеснікам старшыні райвыканкама. Неяк на пленуме райкама абмяркоўвалася пытанне культуры вёскі, народнай адукацыі. Запрасілі на пасяджэнне і новага намесніка старшыні выканкама.

Чым жа была выклікана гэтая незвычайная пастанова?

Ужо амаль тры месяцы прамінула пасля смерці Сталіна, але барацьба за ўладу не сціхала. Таўстаморды Малянкоў, які займаў пасаду сакратара ЦК партыі і Старшыні Савета Міністраў, адчуваў сябе не дужа надзейна і ўтульна, седзячы на двух крэслах. Кіравала вялікай краінай тройка: Малянкоў, Берыя і Хрушчоў. Малянкоў як старшыня ўрада даў каманду падначаленым рыхтаваць план новага бюджэту з такім прыцэлам, каб зменшыць падаткі — і гэтым самым заваяваць любоў і прыхільнасць народа. Ён добра помніў, што на яго сумленні тысячы жыццяў лепшых людзей краіны.

На месца пераемніка бацькі ўсіх народаў рваўся Берыя, у руках якога была сканцэнтравана магутная ўлада аб'яднанага Міністэрства ўнутраных спраў і Міністэрства дзяржаўнай бяспекі. Лаўрэнцій Берыя разумеў, што народ не прыме новую дыктатуру, людзям трэба даць хоць глыток свабоды, хай сабе і ўяўнай. Была аб'яўлена амністыя — на волю выпусцілі амаль два мільёны зняволеных.

Даклад Змітровіча ўразіў Пракапенку веданнем справы, жаданнем палепшыць становішча — выказаў ён шмат канкрэтных прапаноў. І ўсё гэта было сказана на жывой, не казённай, роднай мове. Імпанавала манера гаварыць, выступаць: простая, адкрытая, быццам гутарка з таварышамі па партыі, ні гучных заклікаў, ні пышных фраз. Праўда, пару цытат сталінскіх ён прывёў. Ды хіба можна было абысціся без іх? Адразу ж залічаць у «ворагі народа».

Пракапенка быў у захапленні ад Змітровіча. Здзіўляла, што працуе той у раёне каля года, а гэтак глыбока ведае людзей, кадры, праблемы. І таму вестка, што Змітровіча арыштавалі, балюча ўдарыла яго. Не можа быць! За што? Адны казалі: арыштавалі за дзядзьку, які не ўступіў у калгас, што жыве той дзядзька на Віцебшчыне. Гэтая прычына падалася смехатворнай: ці мала што зробіць дзядзька. Пры чым тут пляменнік? Другія цішком гаварылі: Змітровіч — нацдэм, таму яго і арыштавалі.

Гэтаму Пракапенка паверыў. Пра «нацдэмаў», ворагаў народа, ён багата наслухаўся на курсах. Асабліва дасталавалася ад розных лектараў Жылуновічу, Ігнатоўскаму, Галадзеду. Адзін лектар, малады, смуглявы, з раннімі залысінамі, гаварыў так:

— Звярніце ўвагу, таварышы, як нахабна дзейнічаюць нацдэмы, розныя буржуазныя недабіткі. Напрыклад, былы Старшыня Саўнаркама Беларусі Галадзед набраўся нахабства паставіць пад сумненне вынікі праверкі партыйных дакументаў. Праверка паказала, што ў нас тысячы замаскіраваных ворагаў народа, нацдэмаўскіх падпявалаў. Галадзед асмеліўся паставіць пад сумненне чэснасць вернага саратніка вялікага Сталіна таварыша Малянкова, які асабіста вывучаў становішча спраў у Беларускай партыйнай арганізацыі...

Малады Антон Пракапенка дакладна не ведаў, хто такія нацдэмы, за што яны змагаюцца, у чым варожасць іхняй дзейнасці. Адно ён засвоіў цвёрда: нацдэмы — гэта тыя, хто гаворыць на роднай мове. І што яны самыя заклятыя ворагі народа, бо ніхто з іх пасля арышту ніколі не вяртаўся.

А тут у пастанове адзначаецца, што трэба смялей вылучаць мясцовых, нацыянальныя кадры...

Слухаў Пракапенка даклад, думаў пра незвычайную пастанову. Было на душы трывожна, але выспявала і прадчуванне радасных перамен.

Лаўрэнцій Берыя лічыў сябе найлепшым вучнем і паслядоўнікам Іосіфа Вісарыёнавіча і паступова рыхтаваўся да таго, каб стаць яго пераемнікам. Ні Малянкову, ні Хрушчову гэтая ноша не па плячы. Малянкоў не ведае жыцця, ён тыповае дзіця бюракратыі. А Хрушчова ўсур'ёз не прымаў і Сталін, скептычна ставіўся да яго і Берыя.

Шлях да мэты Берыя вызначыў такі: ставіць усюды сваіх людзей, вылучаць нацыянальныя кадры — яны будуць удзячныя яму за вылучэнне, народы будуць паважаць і любіць яго, Лаўрэнція Берыю. Перш за ўсё свой позірк ён скіраваў на Украіну, Прыбалтыку і Беларусь, дзе тэрмінова кіраўнікі некарэннай нацыянальнасці, у асноўным рускія, замяняліся мясцовымі кадрамі. Памочнікі далажылі Лаўрэнцію Паўлавічу, што найбольшае засілле кадраў некарэннай нацыянальнасці ў Беларусі, нават першы сакратар ЦК Кампартыі рэспублікі Патолічаў — рускі па нацыянальнасці.

Аднойчы ў кабінеце новаспечанага загадчыка чацвёртага еўрапейскага аддзела Міністэрства замежных спраў Міхаіла Зімяніна зазваніў урадавы тэлефон:

— Таварыш Зімянін? Гэта Берыя гаворыць. Вы беларускай мовай валодаеце?

— Я родам з Беларусі, Лаўрэнцій Паўлавіч. У Віцебску нарадзіўся. У Магілёве канчаў педінстытут. Шмат гадоў працаваў...

— Добра, Міхаіл Васільевіч,— нецярпліва перапыніў Берыя, бо ўсё гэта ён выдатна ведаў з падрабязнай анкеты, якая ляжала перад ім.— А што вы скажаце, калі мы парэкамендуем вас на пасаду першага сакратара ЦК КПБ?

— Што я скажу? Я салдат партыі...

Размова была невыпадковай. Напярэдадні Берыя абмяркаваў кандыдатуру Зімяніна з Малянковым і Хрушчовым. Лагічным быў і выбар прэтэндэнта: Зімянін на Беларусі партызаніў, перад вайной працаваў першым сакратаром ЦК камсамола. Дарэчы, імклівае вылучэнне яго на гэтую пасаду праз год пасля заканчэння інстытута было, відаць, не проста шанцаваннем — нехта яму спрыяў. Пасля вайны Зімянін працаваў першым сакратаром Гомельскага абкама партыі, міністрам асветы, сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі, потым другім сакратаром.

З гэтай пасады і перавялі яго ў Маскву. Вядома, перад сваім прызначэннем на дыпламатычную працу пабываў ён на прыёме ў Берыі, як і ў іншых кіраўнікоў.

І вось 12 чэрвеня 1953 года была прынята пастанова ЦК КПСС «Пытанні Беларускай ССР». У Маскве вырашылі адклікаць з Беларусі Патолічава. Зімянін прыехаў у Мінск. Цэкоўцы сядзелі начамі, рыхтавалі даклад новаму «першаму», бо заставалася толькі фармальна зацвердзіць на пленуме рашэнне Масквы.

***АД АЎТАРА:** У студзені 1989 года я меў доўгую гутарку з Іванам Мікалаевічам Макаравым, які ў 1953 годзе быў загадчыкам аддзела партыйных органаў ЦК КПБ. Вось што ён расказаў:*

***— Прыезд Зімяніна быў для нас поўнай нечаканасцю. Толькі два месяцы таму перавялі ў Маскву... І тут вяртаецца як снег на галаву. Ды яшчэ пастанова такая грозная. Патолічаў ходзіць, як цёмная хмара, змрочны. Зімяніна я ведаў добра. У 1939 годзе мяне накіравалі ў Магілёў першым сакратаром абкама партыі. А Зімянін тады яшчэ вучыўся ў педінстытуце... Ну, а потым ён стаў маім начальнікам. Я непасрэдна падпарадкоўваўся другому сакратару ЦК КПБ. Канфліктаў у нас, здаецца, не было, працавалі дружна.***

***Выклікае, значыцца, мяне Зімянін. Павіталіся. Ён і пытаецца: «Іван Мікалаевіч, колькі вы ўжо ў Беларусі?» Я кажу, што амаль пятнаццаць гадоў. «Ну, а як вы валодаеце беларускай мовай?» Я кажу, чытаю, усё разумею, а гаварыць не магу,— Іван Мікалаевіч усміхнуўся, паказаўшы роўныя штучныя зубы.— Мне цяпер восемдзесят шосты гадок ідзе, і я ўсё роўна окаю. Я ж родам з Уладзімірскай губерні. Зямляк Салавухіна,— Макараў дакрануўся да маёй рукі сухарлявай халаднаватай далонню.— І тады я окаў.— «Нада вучыць мову, Іван Мікалаевіч. Ты вось окаеш, а па-беларуску трэба акаць. Гэта не мой капрыз. Гэта — лінія партыі».— «Раз трэба, дык трэба. Вывучу». На тым і развіталіся...***

***Хаджу на работу, ні Зімянін, ні Патолічаў мяне не выклікаюць. Новы першы ўсё вырашае з маім намеснікам. Дайшлі да мяне чуткі, што хочуць мне прапанаваць іншую работу. Пасля пленума...***

...Нічога гэтага не ведаў Антон Яўсеевіч Пракапенка, калі дваццаць пятага чэрвеня сядзеў у зале клуба імя Дзяржынскага, дзе праходзіў той пленум. Поплеч з ім усеўся Лугаўцоў, які быў членам ЦК і адчуваў сябе тут як рыба ў вадзе.

Заняў свае месцы прэзідыум.

— Хто ж будзе адкрываць? Патолічаў фактычна зняты, а Зімянін яшчэ не зацверджаны. Сітуацыя,— хмыкнуў Лугаўцоў.

Падняўся мажны лабасты чалавек і неяк нерашуча, глухаватым голасам аб'явіў аб адкрыцці пленума, прапанаваў ушанаваць мінутай маўчання памяць вернага ленінца, Генералісімуса Сталіна.

Усе падняліся, пастаялі, потым моўчкі селі.

— Хто адкрыў?— ціха спытаўся Пракапенка ў свайго суседа.

— Гарбуноў. Цімафей Сазонавіч. Сакратар па ідэалогіі.

Тым часам Гарбуноў чытаў з паперчыны пра парадак дня. Выносіліся на абмеркаванне два пытанні: пастанова ЦК КПСС і задачы камуністаў Беларусі, другое — арганізацыйнае пытанне.

Вырашылі заслухаць даклад Зімяніна і зрабіць перапынак да заўтра. А на другі дзень пачаць работу а дванаццатай гадзіне, працаваць да семнаццаці, потым зрабіць перапынак на абед на тры гадзіны і закончыць пленум да дваццаці трох гадзін.

Наўрад ці мог хто падумаць тады, што ад гэтага распарадку будзе залежаць рашэнне пленума — першага пасля смерці бацькі народаў.

Хударлявы, шчуплы Зімянін порстка выйшаў на трыбуну, смела зірнуў у залу, дзе ён ведаў многіх людзей, асабіста быў знаёмы з усімі сакратарамі абкамаў.

Адкрываў пленум Гарбуноў на беларускай мове. Гэта не выклікала здзіўлення: шмат якія нарады адкрываліся такім чынам, як напамінак, маўляў, жывём у Беларусі, таму для прыліку пачынаць трэба на мове карэннага насельніцтва, а потым пераходзіць на звыклую, рабочую, інтэрнацыянальную мову.

Калі ж Зімянін, стаўленік Масквы, пачаў пабеларуску, у зале прашалясцеў шумок, як ціхі ветрык над бярозавым гаем. Было чаму здзіўляцца: гэта быў першы даклад на беларускай мове за ўсю гісторыю кампартыі рэспублікі. А не было такіх дакладаў таму, што першымі сакратарамі ўвесь час — а памяняласся іх ужо амаль паўтара дзесятка чалавек — выбіраліся небеларусы. Адзіны беларус Васіль Фаміч Шарангović працаваў на пасадзе першага сакратара ў 1937 годзе крыху больш за чатыры месяцы і быў расстраляны, як і ўсе яго папярэднікі.

Зімянін напачатку, па сутнасці, пераказаў змест пастановы: ЦК КПСС выкрыў і пакрытыкаваў недахопы і памылкі ў нашай дзяржаўнай і партыйнай рабоце, паставіў у цэнтр увагі Камуністычнай партыі Беларусі задачы паслядоўнага і няўхільнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Асабліва ўразілі Пракапенку канкрэтныя прыклады: у сямі райкамах партыі сярод сакратароў няма ніводнага беларуса. У заходніх абласцях рэспублікі нават агентамі па нарыхтоўках, фінансавымі агентамі, работнікамі гандлю ў большасці працуюць людзі з усходніх абласцей або з іншых рэспублік. Пры гэтых словах Лугаўцоў шапнуў:

— Гэта праўда. Я сам пераканаўся на Брэстчыне. Недавер да мясцовага люду. Нібыта ўсе яны ворагі саветаў. Глупства...

*(Працяг будзе).*

# На святога Казюка ў Вільні







У Вільні з надыходам вясны святкуецца Казюк (святы Казімер, апякун горада). І на гэты раз у храмах адбыліся набажэнствы, а на вуліцах — вялікі кірмаш, на які з'ехаліся госці з усёй Віленшчыны. Людзі ўволю паспявалі народныя песні, патанцавалі, пагаманілі.

Фота А. ВАШКЕВІЧА.

# Беларускі народны каляндар

## Красавік — сярэдзіна вясны

НАРОДНАЯ прыказка кажа: «Красавік ваду падбірае, красачкі пушчае», «Красавік чорны ў полі, а ў бары белы», «З апрэля зямля прэе».

Народныя прыкметы: «Красен красавік цяплом, а жнівень даб-ром», «Калі ўдасца апрыль, будзе жытку прыбыль», «Красавік сушыць — нічога з зямлі не рушыць».

1 (серада). Сёлета супала з сярэдзінай Вялікага посту — *серадапосце*. К гэтаму дню гаспадыні пякуць крыжыкі (хрэшчыкі, хрэстцы) і кладуць за абразы. Даўней людзі верылі, што такім чынам яны абараняюць сябе ад ліхога.

Народны каляндар: характар надвор'я ў гэты дзень адпавядае мокраму або сухому лету.

4 (субота). Святы Васіль. З народных прыкмет: калі на Васіля-сланечніка сонца ў кругах — да ўраджайнага года.

Дзень памінання ў праваслаўных.

7 (аўторак). *Благавешчанне (Дабравешчанне, Звеставанне)* у праваслаўных.

З народных прыкмет: на Благавешчанне дождж — ураджай на жыта, грыбная восень; сухое, цёплае надвор'е — лета засушлівае, а восень марозная; снег, дождж — лета мокрае; калі ноч на Благавешчанне цёплая, то вясна будзе дружная («Хоць вясну на Благавешчанне гукалі, але сані на ўсялякі выпадак трымалі»).

12 і 19 (нядзеля). *Вербніца (Вербная нядзеля)*. Сёлета ў каталікоў святкуецца 12, а ў праваслаўных — 19 красавіка. Згодна з легендай, у дні перад галоўным іудзейскім святам Пасхай Ісус Хрыстос урачыста ўехаў у Іерусалім на асліцы і прыняў прывітанні ад народу, які сустрэў месію радаснымі воклічамі ды пальмавымі дрэўцамі. Таму ў хрысціянскіх храмах у апошнюю нядзелю перад Вялікаднем ідзе набажэнства і асвячаюцца галінкі вярбы, што сімвалізуюць пальму. Асвячоную вярбу захоўваюць у хаце, часта пад абразамі, надаючы ёй магічныя ўласцівасці. Па традыцыі знаёмыя і сваякі сцябаюць адзін аднаго вярбою:

Не я б'ю, вярба б'е —
За тыдзень Вялікдзень.

З народных прыкмет: маразы-вербічы «на перадвялікадным тыдні» — добрая прыкмета. Пасля іх не павінна быць позніх маразоў, якія перашкодзяць сяўбе і ўсходам яравой збажыны.

З Вербніцы пачынаецца «страсная сядміца» або «белы тыдзень». У дні ад Вялікага Панядзелка да Вялікай Суботы людзі рыхтуюцца да свята. Раней яны клапаціліся не толькі аб зямных справах, а і аб душы: шчыра пасцілі, спавядаліся, маліліся, даравалі крыўды сваім ворагам. Асаблівае значэнне меў Чысты Чацвер перад Вялікаднем. У гэты дзень мылі і прыбіралі хаты, двары, хлявы, самі мыліся. У пятніцу і суботу гатавалі святочныя стравы: смажылі кумпякі і кілбасы, булкі, мазуркі і іншыя прысмакі.

18 (субота). Святы Фядул («Прыйшоў Фядул — цёплы вецер падуў»).

19 і 26 (нядзеля). *Вялікдзень (Пасха)*. У каталікоў 19, у праваслаўных 26 красавіка. Вялікае хрысціянскае свята прысвечана ўваскрашэнню заснавальніка хрысціянства Ісуса Хрыста. У ноч з суботы на нядзелю ідзе набажэнства, раніцай асвячаюцца прадукты і вада. З усяночнай людзі ідуць дамоў, каб разгавецца пасля посту.

Вялікдзень, Вяліканне — старажытнае веснавое свята славян у гонар Сонца, абуджэння прыроды пасля зімы і надыходу «вялікіх дзён» працы ў полі. Пазней да яго было прымеркавана царкоўнае свята Пасха.

Сляды барацьбы царквы з народнай абрадавасцю захаваліся ў так званых «акамянелых бабах», што ляжалі скрозь па палях, групамі па тры камяні,— два валы і ратай. Паводле легенды, яны акамянелі за парушэнне свята Пасхі, бо выйшлі на Вялікдзень па прыкладу продкаў правесці ў полі першую баразну.

Важныя бытавыя прыкметы Вялікадня: фарбаванне яек-пісанак (крашанак) і хаджэнне па хатах *валачобнікаў (ралешнікаў, ралейнікаў)*, якія ў сваіх песнях славілі гаспадароў, жадаючы ім усялякага дабра, плёну на ніве, прыплоду ў статку. Адна з гэтых песень, запісаная В. Ластоўскім, гучыць так:

**Ой, у лужочку дай на грудочку**
**Валы чатыры злотам яснеюць,**
**Цягнуць плужочак шчырага злота,**
**Сам моцны Божа за плугам ходзіць,**
**Арэ раліцу у дробныя скібкі,**
**А светлы месік волікі водзіць.**
**Волікі водзіць і ўслед скародзіць,**
**Божая маці сынка ладненька**
**Севалку носіць і Бога просіць:**
**«Дай жыту ўроду, добру пагоду,**
**Каб што сцяблінка, то серабрынка,**
**Што каласочак, шчырае злота,**
**Каб было копак аж пад нябёсы!**
**Стане гаспадар паміж капамі,**
**Як ясны месяц паміж звяздамі».**
**За гэтым словам бывай здаровы,**
**Бывай здаровы з сваёй сям'ёю,**
**З сваёй сям'ёю і чалядою.**
**Прыпеў: «Плыві, плужок, у полі».**

21 (аўторак). Святы Радзівон. На Радзівона — крыгалом, паводка, сустрэча Месяца з Сонцам. Добрая сустрэча — ясны дзень і добрае лета, кепская — кепскае лета.

28 (аўторак). Святы Андрэй. Па народным календары — сяўба канапель.

29 (серада). Святая Ірына. Па народным календары дзень, у які сеюць капусту на расаду.

30 (чацвер). Святы Засім. Лічыўся апекуном пчол.

# *Весялінка*

## Жартоўныя пытанні

*1. Колькі яблыкаў можна з'есці нашча?*
*2. Ці можа бусел назваць сябе птушкай?*
*3. Якім грэбенем не расчэшаш галаву?*
*4. З якога крана нельга напіцца вады?*
*5. З якога палатна не сшыеш кашулю?*
*6. Што робіць вартаўнік, калі ў яго на шапцы верабей спіць?*

▲

## Скорагаворкі

*Хвошча, хвошча дождж,*
*Воўк схаваўся ў хвошч,*
*Хвост пад хвашчом,*
*Воўк пад дажджом.*

*Прыручыць сароку —*
*Адна марока,*
*А сорак сарок —*
*Сорак марок.*

▲

## Загадкі

*1. Языка хоць і не мае, на ўсіх мовах размаўляе. Хочаш — песню заспявае, хочаш — весела зайграе.*
*2. Вісіць груша — есці нельга, бо ў сярэдзіне агонь.*
*3. Дзесяць пальцаў, а пазногцяў няма.*
*4. Новая пасудзіна, а ўся ў дзірках.*
*5. Сядзіць Пахом на кані вярхом, сам непісьменны, а чытаць памагае.*
*6. Малы малышык упаў з вышак; ён не забіўся, толькі шапачкі пазбыўся.*
*7. Стаіць дуб у чыстым полі, а на ім дванаццаць голляў, а на голлях, як заўсёды, пяцьдзесят і два гнязды. Па сем яек там ляжыць. Што гэта за дуб стаіць?*

Сабрала Любоў ЛАМЕКА.

## ДА СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

Дарагія беларусы ўсіх краёў! Без вашых допісаў «Наша слова» не здолее расказаць пра тое, чым жывяце вы далёка ад роднай Беларусі. Без нашай газеты вы не даведаецеся шмат чаго пра Адраджэнне на Бацькаўшчыне.

Просім адгукнуцца ўсіх тых, хто хацеў бы сёлета атрымліваць «Наша слова», а таксама дасылаць нам артыкулы, інфармацыю, фотаздымкі.

# Народная лякарня

## МЕТАДЫ ЛЕКАВАГА ЎЖЫВАННЯ МЕДУ

Для лячэння мёдам маюць значэнне як яго пажыўныя, дыетычныя якасці, так і лекавыя ўласнасці.

Ужываць мёд у нармальных дозах карысна і хворым і здаровым, каму не супрацьпаказаны вугляводы ў харчовым рацыёне і ў каго неназіраецца звышадчувальнасць да мёду.

Мёд ужываецца як прафілактычны сродак для павышэння імунітэту арганізма, пры анеміі і ў стане знясілення, пры хваробах печані, сэрца, страўніка і кішэчніка, нырак, скуры, неўрозах, эндакрыннай сістэмы і жаночых хваробах.

Сучасныя спосабы лячэння мёдам: 1) прымаюць унутр у чыстым выглядзе і ў мікстурах, растворах, таблетках, сумесях; 2) ужываюць пры вонкавых пашкоджаннях і захворваннях скуры і слізістых абалонак цела (у выглядзе аплікацый, мазей, спрынцаванняў, ваннаў); 3) праводзяць інгаляцыйны метад лячэння носа, горла, бронхаў; 4) праводзяць лячэнне электрафарэзам — уводзяць праз скуру антыбактэрыяльныя рэчывы мёду з дапамогай электрычнага току.

Прыняты ўнутр мёд — паўнацэнны, бо ў ім захоўваюцца вітаміны, мінеральныя рэчывы, энзімы, ферменты, цукры, арганічныя кіслоты. Калі выкарыстоўваецца антыбактэрыяльнае і супрацьзапаленчае дзеянне мёду для лячэння горла і рота, яго трэба прымаць невялікімі порцыямі (па чайнай лыжцы) і, па магчымасці, затрымліваць у роце. Тады антыбактэрыяльныя рэчывы ўсмоктваюцца слізістай абалонкай рота і горла і забіваюць патагенныя (хваробатворныя) бактэрыі. Такога дзеяння не будзе, калі глытаць мёд хутка. Таму лепш ужываць зацукраваны мёд, які можна больш працяглы час трымаць у роце. Калі выкарыстоўваецца антыбактэрыяльнае дзеянне мёду пры страўнікава-кішачных захворваннях (каліты, энтэрыты), рэкамендуецца яго прымаць у выглядзе густога раствору з вадой пакаёвай тэмпературы.

Для нейтралізацыі страўнікавага соку, які зніжае антыбактэрыяльнае ўздзеянне мёду, рэкамендуецца папярэдне прыняць паўлыжачкі пітной соды.

Калі мёд выкарыстоўваецца пры прастудзе і як адхарквальны сродак, то трэба яго ўжываць з гарачым малаком або чаем на ноч (1 сталовая лыжка на 1 шклянку вадкасці), з сокам лімона (100 г мёду і сок аднаго лімона), з малінай і лекавымі травамі, якія даюць патагонны або адхарквальны эфект.

Пры грыпе ўжываецца мядова-часночная кашка: часнок труць на цёрцы, змешваюць з мёдам у суадносінах 1:1 і прымаюць перад сном па адной сталовай лыжцы, запіваючы цёплай вадой.

Унутр мёд прымаюць пры захворваннях нервовай сістэмы, бяссонніцы як супакойваючы сродак (1 сталовая лыжка мёду на шклянку цёплай вады на ноч). Доследы паказваюць, што мёдам можна лячыць нават такую цяжкую хваробу, як харэя.

Унутр мёд прымаюць таксама пры ўсіх захворваннях дыхальнай сістэмы — рыніце, фарынгіце, ларынгіце, трахеіце, лёгачным абсцэсе, бранхіце і бранхіяльнай астме.

Мёд прымаецца на працягу 1—2 месяцаў. Сутачная доза для дарослых 100—150 г, для дзяцей — 30—40 г (размяркоўваецца на 3—6 прыёмаў).

Для медыцынскіх мэт ужываецца мёд ачышчаны, які служыць асноўным рэчывам для атрымання лякарстваў. У ЗША прыгатаўляюць мёд у выглядзе парашку.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.

Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.

Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 7588 паасобнікаў. Зак. 1171. Індэкс 63865.